Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 060.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 13 лістапада 1998 г. № 122 (514) Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Сустрэча саюзнікаў

**Учора вечарам з рабочым візітам у Мінск прыбыў спікер расійскай Дзярждумы Генадзь Селязнёў.**

Сёння ён сустрэнецца з прэзідэнтам Лукашэнкам, каб абмеркаваць планы далейшага аб'яднання Беларусі і Расіі. Планаваўся прыём і ў прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, але, як сказалі ў прэс-службе, гэтая сустрэча адменена і тут «няма ніякіх палітычных прычынаў». Аказваецца, Г.Селязнёў будзе заняты сустрэчай з удзельнікамі канферэнцыі па вырашэнні праблемаў неплацяжоў на прасторах СНД. Для прэм'ерміністра, відаць, тэма неплацяжоў не вельмі прыемная. У праграме гасцявання расійскага спікера значыцца наведванне двух заводаў — аўтамабільнага і колавых цягачоў.

Алесь ДАШЧЫНСКІ

## «Трэці сектар» чакае перарэгістрацыя

**Бліжэйшым часам будзе прынятае рашэнне аб перарэгістрацыі грамадскіх арганізацыяў Беларусі.**

Пра гэта паведаміў намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Іван Пашкевіч. Па словах І.Пашкевіча, мэта маючай быць перарэгістрацыі — *«дапамагчы адсячы неўласцівыя функцыі»* грамадскіх структураў. У той жа час намеснік кіраўніка адміністрацыі выказаў заклапочанасць неразвітасцю структуры дзіцячых арганізацыяў. *«Не дай Божа, каб незапоўнены гэты вакуум запоўнілі нашыя апаненты»*, — сказаў Пашкевіч.

*БелаПАН*

## У памяць усіх ахвяраў

**Штогод у лістападзе немцы ўшаноўваюць памяць усіх ахвяраў войнаў і тыраніі.**

Гэты дзень народнай жалобы сёлета будзе адзначацца ў нядзелю, 15 лістапада. Часовы паверханы ў справах ФРГ у Рэспубліцы Беларусь Петэр Кольб ускладзе вянкі ў мемарыяльным комплексе Хатынь, да помніка ахвярам былога яўрэйскага гета ў Мінску, да памятнага знака ў лясным масіве Курапаты і на нямецкіх салдацкіх могілках каля вёскі Тарасава пад Мінскам.

Б.П.

## Тры чалавекі замерзлі

**Пачаліся маразы, і ў бальніцы Беларусі сталі паступаць першыя ахвяры зімовага холаду.**

Як нам паведамілі ў мінскай бальніцы хуткай дапамогі, амаль кожны дзень да іх прывозяць абмарожаных і пераахаладжаных людзей: учора прывезлі аднаго бамжа, пазаўчора — трох такіх самых беспрытульных. Тры чалавекі ўжо памерлі.

Ад маразоў людзі гінуць і ў іншых рэгіёнах Беларусі. Напрыклад, у Віцебску, у цеплатрасе непадалёк ад начнога клуба «Ягуар» міліцыя знайшла труп жанчыны ва ўзросце каля 30-ці гадоў. Мяркуючы па ўсім, яна таксама адносіцца да катэгорыі бяздомных.

Міхась КАРПОВІЧ

## У Карэлічах бомбу не знайшлі

**У Карэлічах невядомы паведаміў у міліцыю, што ў райвыканкаме нібыта знаходзіцца выбуховая прылада, якая праз тры з паловай гадзіны спрацуе.**

На месца выехала з Гродна група сапёраў, якім у будынку нічога знайсці не ўдалося. Вярнуліся яны дахаты толькі ў гадзіну ночы. Карэлічы — адзін з самых аддаленых ад абласнога горада райцэнтраў. Паездка ў два канцы, а гэта амаль 400 кіламетраў, і сама аперацыя каштавалі 15 мільёнаў 215 тысяч рублёў.

Сяргей АСТРАЎЦОЎ



# Міхаіл Мясніковіч зоймецца чэргамі, а Шэйман – валютай

**Прэзідэнт прызначыў у кожную вобласць сваіх «цівуноў», якія будуць змагацца з дэфіцытам і чэргамі. За сітуацыяй у Мінску будзе сачыць Міхаіл Мясніковіч. А Іван Ціцянкоў зоймецца Брэсцкай вобласцю.**



*Мінскія чэргі за яйкамі.*

Беларуская эканоміка, якой Аляксандр Лукашэнка кіраваў чатыры гады запар, заканамерна зайшла ў тупік. Але гэтую заканамернасць спасцiглі толькі людзі дасведчаныя, прынамсі, адукаваныя. А большасць верыць у тое, што ўсе нашы беды маюць расійскае паходжанне, а «бацька» тут, што называецца, ні пры чым.

Зрэшты, Рыгоравіч і сам здзіўляецца: *«Я не магу знайсці адказу на адно простае пытанне: чаму мы так дынамічна развіваемся ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, а нашыя людзі бяднеюць месяц ад месяца»*. Так выказаўся прэзідэнт на нарадзе, якую ён склікаў у мінулую сераду, каб пагаварыць пра дэфіцыт прадуктаў. Прэзідэнт прыгразіў сваім міністрам: *«Калі да 1 снежня не будзе стабілізаваная сітуацыя, я буду вымушаны сур'ёзным чынам абнавіць склад урада». «Хопіць, я больш не буду за вас гандляваць, займацца уборкай ураджаю і праводзіць пасяўную кампанію. Як кіраўнік дзяржавы я павінен выконваць свае канстытуцыйныя абавязкі. А бягучымі гаспадарчымі пытаннямі павінен займацца ўрад»*, — заявіў Лукашэнка.

У дапамогу ўраду была створаная «пажарная каманда» — спецыяльны штаб на чале з Міхаілам Мясніковічам. Прызначыў Лукашэнка і ўпаўнаважаных па рэгіёнах. У Брэсцкай вобласці стабілізацыяй сітуацыі будзе займацца Іван Ціцянкоў, у Віцебскай — старшыня Дзяржкантролю Мікалай Дамашкевіч, у Гродзенскай — віцэ-прэм'ер Леанід Козік, у Гомельскай — міністр сувязі Уладзімір Ганчарэнка, у Мінскай — прэм'ер Сяргей Лінг, у Магілёўскай — намеснік прэм'ера Аляксандр Папкоў, а ў Мінску — сам Міхаіл Мясніковіч. Не застаўся без працы і Віктар Шэйман. Ягонаму ведамству (Савету бяспекі) даручана займацца кантролем за валютнымі аперацыямі і рэалізацыяй канфіскаванай маёмасці.

Цяпер, трэба думаць, прэзідэнцкія «апрычнікі» накормяць народ. Віктар Шэйман, напрыклад, канфіскуе клунак з харчамі ў якога-небудзь небаракі і падзеліць здабычу паміж галоднымі.

А што Шэйман будзе адбіраць і дзяліць менавіта так — няма сумневу. Бо, па-першае, інакш не ўмее, па-другое — менавіта яму даручаны кантроль за валютнымі аперацыямі ў краіне. Дзяржава наша хоча застацца ў ранейшай ролі: быць адначасова і «мянялай», і «кідалай», вымушае прадаваць долар за трэць цаны, а сама прадае яго па рынкавым курсе.

Але ж за гэтыя гады не толькі валюты паменела, але ж і дурняў, якіх можна за проста так кінуць, таксама мала засталося. Як кажуць, дурань то я дурань, ды не дурнейшы за вас.

Канстанцін СКУРАТОВІЧ
Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

# Шклоўскія кадры ў цане

*У беларускім урадзе з'явіўся яшчэ адзін кадр са Шклова*

50-гадовы Аляксандр Папкоў заняў вакантную пасаду намесніка старшыні Саўміна.

Прэзідэнта і новага віцэ-прэм'ера звязвае агульнае мінулае. Дырэктар саўгаса «Гарадзец» Аляксандр Лукашэнка быў падначаленым у старшыні Шклоўскага райвыканкама, а затым першага сакратара гаркама КПБ Аляксандра Папкова. Відаць, не было ў Рыгоравіча ніякай крыўды на начальніка, тым болей, што пад яго кіраўніцтвам пачаўся дэпутацкі шлях Лукашэнкі.

Пасля забароны кампартыі А.Папкоў перажыў усе катаклізмы на пасадзе гендырэктара гандлёвага прадпрыемства «Шклоўскае» Цяпер віцэ-прэм'ер будзе курыраваць сельскую гаспадарку — замест Уладзіміра Гаркуна, якога адправілі паслом у Літву.

Алесь ДАШЧЫНСКІ

## А можа, ўвесці карткі?

**Дэфіцыт асноўных прадуктаў харчавання — мясных, малочных, цукру — абмяркоўваўся на спецыяльным паседжанні Віцебскага аблвыканкама.**

Сярод іншых, аналізавалася прапанова ўвесці нарміраванае размеркаванне масла і цукру. Аднак падлічана, што карткавая сістэма не будзе забяспечаная таварнай масай, а значыць, у гэтай сітуацыі ўвесці карткі — толькі агаліць праблему.

Я.Г.

## Прадукты павязуць на Сахалін

**Партыя гуманітарнага грузу з Беларусі неўзабаве будзе адпраўленая на Сахалін.**

Як нам паведамілі ў міністэрстве па надзвычайных сітуацыях, для пацярпелых ад стыхіі сахалінцаў сабралі школьныя прыналежнасці, адзенне і будматэрыялы. Самую каштоўную частку груза складаюць прадукты харчавання на 6 мільярдаў рублёў і медыкаменты на 453 мільёны рублёў. «Гуманітарку» ўжо пагрузілі ў чыгуначныя вагоны, з якіх будзе сфармаваны цэлы састаў.

Мікола ВАЙТОВІЧ

## Стварыць фірму няпроста

**Дзяржаўны падатковы камітэт Беларусі распаўсюдзіў праект дэкрэта «Аб парадку рэгістрацыі і ліквідацыі суб'ектаў гаспадарання ў Рэспубліцы Беларусь».**

Гэты дакумент прадугледжвае ўзмацненне кантролю дзяржавы за дзейнасцю недзяржаўных суб'ектаў гаспадарання, а таксама ўвядзенне матэрыяльнай адказнасці заснавальнікаў па абавязацельствах створаных імі юрыдычных асоб. Акрамя таго, плануецца забараніць стварэнне адной асобай трох і больш прадпрыемстваў.

*БелаПАН*

## Шаноўныя чытачы!

Падпісная кампанія на 1999 год стартавала.

Газету **НАВІНЫ** можна выпісаць у любым аддзяленні пошты і Белсаюздруку.

## Трое сутак за паход да прэзідэнта

**Рабочы Мінскага аўтамабільнага завода Мікалай Раманаў асуджаны на трое сутак за ўдзел у шэсці да прэзідэнта, якое адбылося 5 лістапада ў Мінску.**

Мікалай Раманаў быў затрыманы міліцыяй адразу пасля шэсця. Пачалі судзіць яго ў мінулую пятніцу, а завершылі ўчора. На судзе сведкі-міліцыянты сцвярджалі, што Раманаў «размахваў забароненым сцягам» і пагражаў «пасадзіць усю міліцыю на пікі». Рабочы абураўся гэтым паклёпам і як мог абараняў сябе сам — выкарыстаць грамадская абаронцу, якога прадаставіў Свабодны прафсаюз, суд не дазволіў. У выніку суддзя Мікалай Трубнікаў «уляпіў» рабочаму трое сутак арышту. Гэта першы «турэмны» прысуд па выніках акцыі 5 лістапада. Раней суддзя Трубнікаў абмяжоўваўся для ўдзельнікаў несанкцыяванага шэсця «папярэджаннямі».

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Пікет у Маскве

### *Хартыя-97 працягвае святкаваць сваю гадавіну*

Учора Антыфашысцкае маладзёжнае дзеянне Расіі (АМД) пікетавала беларускую амбасаду ў Маскве з лозунгамі: *«Лукашенко, go home!», «Беларуси – да, Лукашенко – нет!», «Жыве Беларусь!»* і *«Нет – союзу с диктатурой Лукашенко!».*

Як мы ўжо пісалі ў папярэднім нумары, раней адбыліся пікетаванні беларускіх амбасадаў у Брусэлі і Кіеве.

**М.К.**

## Мытнікаў – 5 тысяч

**Кадравыя праблемы беларускай мытні абмяркоўваліся на рэспубліканскім семінары ў Гомелі.**

Як адзначыў на семінары намеснік старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Іван Авін, асноўная праблема заключаецца ў тым, што ў працэсе свайго стварэння мытныя органы, спяшаючыся ўкамплектаваць 5-тысячны штат супрацоўнікаў, набралі *«не зусім тых людзей»*. Менавіта таму, лічыць Іван Авін, маюць месца факты карупцыі і хабарніцтва. Праведзеная летась кадравая «чыстка» трохі палепшыла сітуацыю, і цяпер галоўная задача — прад'яўляць больш строгія маральныя патрабаванні да «навабранцаў».

## «Заходняму Бугу» далі вымпел




**Брэсцкая мытня «Заходні Буг» названа лепшай па выніках працы за дзевяць месяцаў гэтага года**

Калектыў мытні атрымаў пераходны вымпел і грашовую прэмію ў памеры 1 мільярд 73 мільёны рублёў.

## Курсы для афіцэраў

**На Лідскім заводзе «Нёман» ствараецца вучэбны цэнтр па перападрыхтоўцы звольненых у запас ваеннаслужачых.**

Былыя афіцэры змогуць тут набыць спецыяльнасці «аператар камп'ютэрнага набору» і «спецыяліст па рамонце легкавых аўтамабіляў». У забеспячэнні вучэбнага цэнтра сучасным абсталяваннем дапамогу акажа ўрад Японіі.

*БелаПАН*

### *19 лістапада — Дзень ракетных войскаў і артылерыі*

## Ракеты пакуль ёсць



З нагоды свята начальнік ракетных войскаў і артылерыі Рэспублікі Беларусь генерал-маёр Іван Чыкал даў прэс-канферэнцыю.

Журналісты, апрача іншага, цікавіліся, ці сапраўды плануецца ўзмацніць беларускія Узброеныя сілы (у адказ на пашырэнні *NATO*) эфектыўнымі расійскімі тактычнымі ракетамі. Генерал Чыкал заявіў: *«У мірны час ніхто нікога ўзмацняць не будзе. Усімі выконваюцца міжнародныя дагаворы. Іншая справа – вайна, калі ўсе абмежаванні будуць адменены. Ёсць дагавор паміж Расіяй і Беларуссю, згодна з якім будзе сумеснае адбіванне знешняй пагрозы ўсімі наяўнымі сродкамі дзвюх дзяржаваў. У мірны час за такія ракеты давядзецца плаціць вялікія грошы».*

*БелаПАН*

## Беларусь «паклала вока» на турэцкія мільярды

**Беларусь і Турцыя дамовіліся ўзмацніць вайсковае супрацоўніцтва.**

Пра гэта было абвешчана падчас візіту ў Мінск турэцкага віцэ-прэм'ера і адначасова міністра абароны Ісмета Сезгіна. Госць запрасіў Беларусь да ўдзелу ў конкурсах на пастаўкі ў гэтую краіну ўзбраення, тэхнікі і аказання розных вайсковых паслугаў. Падчас трохдзённага візіту высветлілася, што членства Турцыі ў *NATO* — не перашкода для шчыльных кантактаў з Беларуссю ў вайсковай сферы.

Што мы можам прапанаваць Турцыі, якая абвесціла аб планах пераўзбраення і выдзеліла на гэтыя мэты мільярды долараў? У першую чаргу, як адзначаюць беларускія спецыялісты, Турцыя можа зацікавіцца цягачамі, якія вырабляюцца на Мінскім заводзе колавых цягачоў. Гэтыя машыны, прыгодныя для перавозкі танкаў, ужо прайшлі выпрабаванне на турэцкіх палігонах і атрымалі там добрыя адзнакі. Таксама не выключана, што туркі «пакладуць вока» на прыцэлы для стралковай зброі — прадукцыю Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання. І, канешне, нядрэнная перспектыва атрымаць турэцкія заказы ў нашых прадпрыемстваў па рамонце баявой тэхнікі, у прыватнасці, авіяцыйнай. Нездарма турэцкага міністра абароны павезлі ў Баранавічах на авіярамонтны завод, дзе ён мог упэўніцца, чаго вартыя нашыя майстры. Дарэчы, на ўзбраенні ў Турцыі ў асноўным амерыканскія самалёты, але што тычыцца верталётаў, то частку іх пастаўляе і Расія. Не выключана, што і нашыя спецыялісты могуць падключыцца да абслугоўвання і рамонту гэтай ды іншай расійскай тэхнікі.

Ва ўмовах эканамічнага крызісу Беларусь імкнецца зарабляць усё больш долараў на продажы ці рамонце зброі і вайсковай тэхнікі. Па дадзеных на пачатак года, дзяржаўная фірма «Белтэхэкспарт» вяла перамовы па кантрактах на агульную суму больш чым 200 мільёнаў долараў. Частка з іх рэалізаваная. Агульная лічба прыбыткаў дзяржавы ад гандлю зброяй трымаецца ў сакрэце.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Няма сродкаў на вакцыну

**На працягу двух апошніх тыдняў у нашай краіне склалася крытычная сітуацыя з вакцынай.**

Як паведамілі нам у Рэспубліканскім цэнтры эпідэміялогіі і гігіены, «на зыходзе» звычайныя прэпараты супраць дыфтэрыі, адзёру, коклюшу і іншых інфекцыяў. Прышчэпкі ад туберкулёзу робяць толькі ў радзільных дамах. Вакцыны супраць поліяміэліту на складзе няма, а ў ёй маюць патрэбу немаўляты. Медычныя ўстановы краіны дагэтуль не атрымалі 900 тысяч дозаў гэтага прэпарату. Многія паліклінікі вымушаныя спыніць прышчэпкі. Перабоі ўскладняюць работу медыкаў па масавай імунізацыі насельніцтва. Не закуплена яшчэ вакцына і супраць грыпу. На сëлетні сезон плануюць набыць для краіны мінімальную колькасць, усяго 235 тысяч дозаў.

Рэспубліканскі цэнтр эпідэміялогіі і гігіены збіраўся аб'явіць тэндэр на пастаўку вакцынаў у Беларусь. Аднак міністэрства аховы здароўя вырашыла абысціся без пасрэднікаў і цэнтралізавана закупіць прэпараты на расійскіх прадпрыемствах. Улады спадзяюцца, што Расія адпусціць вакцыну ў доўг. Чакаць ужо няма куды. У цэнтры эпідэміялогіі спадзяюцца да студзеня набыць хоць бы самае неабходнае.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Абыдземся без грошай?

Яшчэ нядаўна — памятаеце? — заробкі ў нас часта выдаваліся каму шкарпэткамі, каму электракіпяцільнікамі, каму маянэзам. Карацей кажучы, прадукцыяй роднага прадпрыемства, якое не магло яе прадаць, каб зарабіць грошы. Цяпер «зайцаў» надрукавалі колькі хочаш. Але зноў праблемы са збытам, праўда, своеасаблівыя.

Напрыклад, адзін з галоўных экспарцёраў Гродзеншчыны — лідская «Лакафарба» не хоча прадаваць на ўнутраным рынку сваю прадукцыю, бо зрабіць з нашых рублёў долары практычна немагчыма. А амаль уся сыравіна купляецца за валюту. Вялікая колькасць фарбы ішла ў Расію, адкуль цяпер «ни ответа, ни привета» — не плаціць старшы брат. Прычым, трэба зазначыць, яшчэ ўчора начальства вельмі ганарылася, што аднавіла традыцыйныя і «выгадныя» сувязі.

Аднак некаторыя былі больш прадбачлівымі, разумеючы, што Расія — краіна нестабільная. Напрыклад, у тым жа Лідскім раёне шклозавод «Нёман» ужо трэці год рэкламуе сваю прадукцыю ў Інтэрнэце, добра асвоіўся ва ўмовах заходняга рынку. Нёманцы паспяхова прадаюць свой крышталь і іншыя вырабы нават у ЗША, Англіі, Францыі і наплявацb ім на крызіс у Расіі.

Пачало патроху даходзіць і да ўладаў, што на русафільстве эканоміку не збудуеш. Старшыня абласнога выканкама А.Дубко паставіў задачу шукаць новыя рынкі збыту, дзе за тавары плацяць, г.зн. заходнія. Але пры ўсім гэтым ён паўтарае як заклінанне: неабходна любымі сіламі захаваць эканамічныя і фінансавыя сувязі з Расіяй. Дык яна ж неплацежаздольная, — гавораць яму. Значыцца, трэба «рэзка павялічыць» бартэр. Карацей, хутка застанецца адзін «натуральны абмен», як на досвітку цывілізацыі, калі не існавалі грошы, і паляўнічы мяняўся з аратым: кавалак мяса за бохан хлеба. Зрэшты, пры камунізме нам таксама абяцалі грошы скасаваць.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Мядзведжая паслуга

### *Афіцэр хацеў дапамагчы, але...*

У Навагрудку афіцэр мясцовага гарнізона вырашыў даставіць на ўласным *BMW* у лідскі вайсковы шпіталь хворага салдата. Выехаўшы з горада, ён не справіўся з кіраваннем, і машына перакулілася. Салдат з пераломам пазваночніка быў дастаўлены ў рэанімацыю райбальніцы.

**Мікола ВЯЛІЧКА**

## А хіба дыктатура не г...?

**Мінская міліцыя спыніла ў аўторак акцыю пратэсту Хартыі-97 праз 40 хвілінаў пасля яе пачатку. І гэта нягледзячы на тое, што «хартысты» не парушалі грамадскага парадку і мелі дазвол на правядзенне пікету.**

Міліцыянты даставілі ў пастарунак пяць чалавек — актывістаў Хартыі Алега Бябеніна і Мікалая Халезіна, а таксама вядомых беларускіх рокмузыкантаў Лявона Вольскага, Вячаслава Кораня і Юрася Ляўкова. За што ж іх затрымалі? Па словах пікетчыкаў, прычынай стала лінгвістычная спрэчка.

Вось што нам расказаў адзін з удзельнікаў акцыі Мікалай Халезін: *«Мы з хлопцамі трымалі транспарант з даволі арыгінальным надпісам «Дыктатура – гаўно». Гэтыя словы вельмі не спадабаліся аднаму міліцэйскаму маёру: маўляў, такі непрыгожы выраз абражае годнасць іншых грамадзянаў. Я думаю, прычапіўся да нас яму параіў намеснік мінскага мэра Віктар Чыкін, які таксама знаходзіўся на плошчы. Нас павезлі ў Савецкі РАУС разам з плакатам. У пастарунку міліцыянты не ведалі, што з намі рабіць, бо фармальна мы ніякіх законаў не парушалі. Даваляся амаль цэлую гадзіну тлумачыць ім, што слова «гаўно» ніяк не можа абражаць чыюсьці годнасць, бо гэта літаратурная норма. У якасці прыкладу я прывёў дзве ленінскія цытаты. Адна з іх шырокавядомая. Памятаеце, як Ільіч пісаў пра інтэлігенцыю, што яна «не мозг нацыи, а говно».*

Пікетчыкаў адпусцілі, але плакат не аддалі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*Ліст у рэдакцыю*

## Як я прадаваў Леніна

Перабіраючы свае архівы, знайшоў з дзесятак старых паштовак з партрэтам Леніна. Памкнуўся выкінуць, але падумаў: ёсць жа людзі, якія будуць рады набыць такі сувенір. І я, беспрацоўны, на бутэльку малака з булкай зараблю. Як у народзе кажуць, з паршывай авечкі хоць поўсці касмыль.

7 лістапада выправіўся на плошчу Леніна ў Магілёве, дзе павінна было праходзіць галоўнае мерапрыемства дня. У 10 гадзін людзі ўжо збіраліся, тым больш, што ў шапіках гандлявалі і півам, і да піва.

Стаў ля аднаго шапіка, дзе было людней, развярнуў верам свой тавар, стаю, чакаю. Ніякай увагі. Пайшоў павольна па плошчы паўз купкі людзей. «Гэта што, прадаецца?» — пацікавіўся адзін. «Прадаецца», — кажу і чакаю, што спытае пра кошт. Не спытаў, адышоў.

Невялікая група школьнікаў — заўважылі мяне, пераглянуліся і засмяяліся. «Колькі каштуе?» — спытаў адзін. «Для цябе бясплатна. Даць?» — «Не, не трэба», — адмахнуўся той. Другі пачуў, перапытаў: «Бясплатна?» — «Ну... Даць?» — «Давайце», — ён узяў паштоўку, павярцеў яе, не ведаючы, што рабіць, і сунуў у кішэнь. Яшчэ паўгадзіны я вандраваў па плошчы, але больш ніхто не зацікавіўся маім таварам. Вырашыў сам праявіць ініцыятыву. Падышоў да мужчыны з дзяржаўным сцягам. «Не трэба Леніна?» — «Да пашол ты... са сваім Ленінам!»

Раптам заўважыў «кадра». Плячысты стары ў форме адстаўнога марскога афіцэра. На грудзях значок: на фоне чырвонага сцяга вывы Леніна і Сталіна і надпіс «РКПБ». Трымае самапісны плакат, нешта пра Леніна. Знізу плаката адзін куток пусты. «Вось тут месца для партрэта засталося», — жартую я і паказваю паштоўкі. «А што, добра!» —загараэўся ён. У мяне знаходзіцца і клей-аловак. Стары дастае кашалёк і перабірае там паперкі па тысячы. Нарэшце знаходзіць адну пяцітысячную, падае мне. Таго, што засталося ў ягоным кашальку, на піва ўжо не хопіць. Мы разам наклейваем паштоўку на плакат.

Але больш мне ўжо не хочацца нікому прапаноўваць свой тавар. Піце піва, мужыкі! Я хаваю тавар у кішэнь і адыходжу.

Ля шапіка з марозівам, у каробцы, куды кідаюць абгорткі, раптам заўважаю скамечаную паштоўку з Ленінам, тую самую. Не захацеў хлопец трымаць правадыра ў кішэні, выкінуў. Ну што ж, бывай, правадыр!

**Міхась БУЛАВАЦКІ,**
*г. Магілёў*





# Браслаўскія стараверы



*Святлана Бялова працуе ў студыі майстроў Браслаўскага краязнаўчага музея.*

**БОЛЬШ за 200 гадоў таму на Браслаўшчыне пасяліліся ўцекачы ад ніканаўскіх рэформаў. Але нават у далечыні ад маскоўскіх земляў, у нетрах дзікай прыроды, схаваўшыся між азёраў, ахвяры царкоўнага расколу жылі асцярожна, затоена. З тых часоў у старавераў дагэтуль захавалася традыцыя: з кубка, у якім чужому падавалася вада, гаспадары-стараверы піць не павінны.**

**Стараверы Браслаўшчыны самі сябе называлі маскалямі, з гонарам падкрэсліваючы сваё гістарычнае паходжанне. Яны і сёння не хаваюць радасці, калі нехта выпучае іх гэтым назовам сярод беларусаў ці палякаў, што жывуць побач.**

**Гэтыя людзі заўсёды вылучаліся сваёй самабытнасцю, у аснове якой была моцная, непахісная вера. Яны надзвычай строга трымаліся абрадаў. І Божа барані, калі хто возьме чарку. Але так было раней. Цяпер сітуацыя іншая. Што ў святы, што ў будні — заўсёды ўбачыш п'яных старавераў.**

**Амаль усе стараверскія паселішчы Браслаўшчыны — выміраючыя. Моладзь у вёсках не застаецца. Раней міграцыя адбывалася ў бок Прыбалтыкі — у Рыгу, Вільню, Даўгаўпілс. Вялікае апусташэнне вёсак адбылося ў часе будоўлі Ігналінскай АЭС. Цяпер, зразумела, калі мяжа на замку, моладзь падаецца ў бок беларускай сталіцы.**

**Але апошнім часам на Браслаўшчыне з'явілася некалькі маладых стараверскіх святароў, якія спрабуюць спыніць працэс духоўнай дэградацыі сваіх суродзічаў. У самім Браславе адкрылася новая малельня. Ужо некалькі маладых сем'яў сталі сталымі яе наведвальнікамі. Але ў далёкіх і маленькіх вёсках, такіх, як Буловішкі ці Мінкавічы, нават у прастольнае свята няма каму несці абразы хрэсным ходам.**

**Анатоль КЛЯШЧУК**
*Фота аўтара*



*Стараверы з вёскі Пашэвічы.*



*Старавер-званар з вёскі Мінкавічы Рыгор Шаршнёў.*



*Стараверы вёскі Буловішкі.*



*На магілах старавераў ставяць васьміканцовыя крыжы.*



*Стараверская царква ў вёсцы Мінкавічы.*

*Что пишут*

## Лукашенко не успевает на президентскую гонку

Газета «Новые Известия» полагает, что у белорусского президента сейчас существует достаточно причин, чтобы не форсировать интеграционные процессы. Изменение ситуации в России оказалось не в его пользу. Но главной неприятностью для него является чересчур стремительное приближение выборов нового президента в России. А.Лукашенко не успевает на президентскую гонку и поэтому пытается оттянуть ее начало. *«Именно этим объясняются его призывы к российской общественности во время недавнего путешествия по Сибири дать Б.Ельцину доработать положенный срок»*, — пишут «Новые Известия».

Журналисты считают, что поскольку стать президентом объединенного Союза является главной целью белорусского лидера, то все «попытки» урезать его возможную будущую власть воспринимаются чрезвычайно болезненно. Так, по мнению газеты, 2 ноября в Могилеве *«белорусский президент и вовсе сорвался»*. Когда ему задали вопрос о возможном перераспределении властных полномочий в России между главой государства, правительством и парламентом, глава союзной республики отреагировал крайне болезненно, заявив, что это приведет к хаосу. Он даже обозначил роль Думы в политической жизни: *«Законодательная власть существует только для одного: чтобы творить законы»*. И далее: *«Через два-три года придет другой человек, они что, хотят его лишить полномочий?»*

Российская пресса подчеркивает, что А.Лукашенко остался недоволен действиями депутатов Госдумы. Принимая в Минске вологодского губернатора В.Позгалева, белорусский руководитель заявил, что российские политики лишь играют в интеграцию. Есть разговоры, но нет конкретных действий — это относится и к левым, контролирующим ситуацию в Госдуме. Президент подчеркнул, что в дальнейшем будет иметь дело только «с серьезными людьми», а именно — с президентом РФ, правительством и губернаторами.

Причину такого отношения понять довольно просто: А.Лукашенко стремился к созданию общего парламента, но с обязательным установлением двойного гражданства. *«Судя по слухам, просочившимся из президентской резиденции, «лукашенковская» модель подразумевает: гражданину бывшего СССР, проживавшему на территории РСФСР или БССР, стаж «советского гражданства» автоматически засчитывается в стаж гражданина нынешних России и Беларуси»*, — отмечает газета «Московские новости». То есть, любой гражданин Беларуси получает право баллотироваться на пост президента России или президента Союза. Однако, как уточняет газета, по мнению спикера Г.Селезнева, президентского поста в создаваемом Союзе не будет, поскольку это не единое государство, а объединение двух самостоятельных государств.

*Подготовил*
**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

## Славянскі тупік



У Венгрыі, Чэхіі, Польшчы зарплата ў 500-600 долараў лічыцца не высокай. Добра зарабляюць людзі і ў іншых посткамуністычных краінах, але толькі не ў нас. Што казаць, калі месячная зарплата сярэднестатыстычнага беларуса не перавышае 30 долараў па рыначнаму курсу. Вось і атрымліваецца, што 83 працэнты нашага насельніцтва жывуць ніжэй рысы беднасці. Беларусы нарэшце дасягнулі роўнасці — роўнасці ў галечы.

Для скарачэння беднасці існуе два шляхі. Па першаму мы крочылі ўсе гэтыя гады, таму і трапілі ў натуральны «славянскі тупік»: дзяліць больш няма чаго. Даходаў тых 17 працэнтаў грамадзянаў, якія зарабляюць крыху больш за астатніх, хоць ты іх застрэль, не хопіць, каб накарміць усіх.

І наогул, уся гэтая «справядлівая дзяльба» не мае ніякага сэнсу. Напрыклад, як падлічылі амерыканскія эканамісты, экспрапрыяцыя эксплуататарскіх класаў у Расіі падчас так званай рэвалюцыі дала бедным прыбаўку да зарплаты ў памеры 10 долараў, за якія, дададзім, прыйшлося заплаціць мільёнамі чалавечых жыццяў.

Такім чынам, дзяліць ужо няма чаго. Няма таксама грошай і на развіццё вытворчасці. Справа ў тым, што ў эканоміку можна інвеставаць толькі «лішнія» грошы, зберажэнні, якія ствараюцца перш за ўсё багатымі людзьмі, якіх у нас ці няма, ці яны хаваюцца ад «бацькі», ці хаваюць свае зберажэнні ў панчохах.

Але адсутнасць сродкаў у краіне — гэта не бяда, а паўбяды. Грошы ёсць за мяжой. Калі кіраўніцтва дзяржавы выбірае разумны шлях, то заўсёды знойдуцца людзі за мяжой, якім будзе выгадна інвеставаць эканоміку, якая развіваецца. Таму, напрыклад, у Венгрыі, Чэхіі, Эстоніі, краінах, якія хутка прайшлі крызіс пераходнага перыяду і не дапусцілі абвальнага падзення жыццёвага ўзроўню, на душу насельніцтва прыходзіцца адпаведна 432, 243 і 132 долары замежных інвестыцыяў. У нас жа, вы будзеце смяяцца, гэтых самых інвестыцыяў прыпадае ў год толькі 1 долар на чалавека. Меней даюць толькі Таджыкістану, дзе ідзе грамадзянская вайна.

Цяпер мяркуйце самі, ці можна чакаць, што наш прэзідэнт выканае патрабаванне рабочых і падніме памер МЗП да 100 долараў у месяц. Каб гэта стала магчымым, трэба памяняць усю эканамічную палітыку, адмовіцца ад «рынкавага сацыялізму» і рабіць усё так, як гэта робіцца ў людзей.

Канешне, сёе-тое можна зрабіць, нічога па сутнасці не мяняючы. Напрыклад, ліквідаваць «касу» Івана Ціцянкова і аддаць гэтыя грошы ў дзяржбюджэт. Можна адмовіцца ад будоўлі хакейных палацаў, прадаць лішнія «мерседэсы» і нават прэзідэнцкі самалёт. Але гэтых грошай надоўга не хопіць. Скажу нават больш: аддай нам сёння хоць усё золата свету, аднак заўтра мы зноў апынемся такімі ж жабракамі. Бо як толькі нашае начальства атрымае кучу долараў, тут жа з'явяцца і новыя праекты, возьмемся, напрыклад, за будоўлю касмічных караблёў, каб нарэшце вызначыць дакладна, ці ёсць яно жыццё на Марсе. А хутчэй за ўсё возьмемся за падрыхтоўку славянскай вайны з *NATO*.

Многае залежыць ад таго, якія мэты перад сабой чалавек ці грамадства ставяць. Можна, як гэта робіць наша кіраўніцтва, «запускаць заводы», каб забяспечыць занятасць. А можна паставіць мэтай забеспячэнне эфектыўнай занятасці, гэта значыць такой, якая забяспечвае працаўніку нармальны заробак, а пенсіянерам — прыстойную пенсію. А першай умовай для гэтага з'яўляецца павышэнне ступені эканамічнай свабоды суб'ектаў гаспадарання, наогул насельніцтва, без чаго немагчыма рэальная канкурэнцыя, зніжэнне цэнаў і г.д.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**





*ДАГЕРРОТИП*

**Семен БУКЧИН**

## Споры у памятника маршалу

В минувшее воскресенье в Варшаве был открыт второй памятник Юзефу Пилсудскому. Первый установили три года назад возле отеля «Европейский», на краю площади, носящей имя «начальника государства». На противоположной стороне — могила Неизвестного Солдата, Вечный Огонь, почетный караул, арка с памятными таблицами, на которых даты и места сражений, в которых отличились поляки. В Польше чтут память о Пилсудском, что, впрочем, не помешало здешним остроумцам окрестить фигуру у отеля «Европейский» «паркинговым», имея в виду соседство памятника с примыкающей стоянкой автомобилей. «Паркинговы» — это сторож на автомобильной стоянке.

Новый памятник, вставший у Бельведерского дворца, гораздо внушительнее по объемам. Маршал стоит, опираясь на саблю, немножко сгорбившись и подавшись вперед. Он как бы вглядывается в даль Лазенковской трассы, пытаясь, может быть, разглядеть будущее Польши. На открытии памятника были президент Польши Александр Квасьневский и дочь маршала Ядвига Пилсудская-Ярачевская.

Акция совпала, а точнее, была приурочена к 80-летию восстановления польской независимости, что придавало ей особый смысл. Ведь именно Пилсудский организовал сопротивление войскам большевистской России и не впустил их в Варшаву.

Я приехал к памятнику на другой день после открытия. Множество венков... Небольшие группки любопытствующих граждан...

— Как вам памятник? — спросил я пожилого пана.

— Много бронзы...

— Ну а сам-то памятник как? Хорош?

— Памятник-то хорош, но вот заслужил ли он его, — пан приподнял шляпу и отправился по своим делам.

Этот «непатриотический» ответ отчасти отражает ту атмосферу дискуссионности, в которой живет последнее время Польша. Нет, страна отнюдь не разделена на противоборствующие лагеря. Просто пришла другая жизнь, и полякам есть о чем поспорить. В День Независимости, 11 ноября, у памятника Пилсудскому, что возле отеля «Европейский», я наслушался немало споров. И порадовался за поляков. Спорили не о чем-нибудь, а о том, что даст Польше вхождение в Европейский союз, поскольку именно в эти дни в Брюсселе начались переговоры в связи с будущим приемом страны в ЕС. Раздавались голоса, что Запад, мол, только и ждет, чтобы слопать Польшу без остатка, превратить ее в свою колонию. В ответ слышалось, что Польше еще далеко до ЕС как до Марса, и хорошо если западные страны помогут приблизиться к тому уровню, который отличает их жизнь.

А под эти споры дети и их родители ставили свечи и цветы к памятнику маршалу. А рядом, на Новом Святе, люди с тротуара наблюдали, как на машинах покидает президентский дворец Александр Квасьневский и его гости после приема по случаю Дня Независимости. Публика стояла буквально впритык к проезжей части, буквально в трех-четырех метрах от президентского лимузина, и полицейские (очень немногочисленные, два или три человека) не только не теснили людей, но не делали ни одного замечания. В том числе молодому человеку, поднявшему над головой плакат с подробно выписанными требованиями соблюдения конституционных гарантий.

— Вы сильно недовольны своей жизнью? — спросил я его.

— Ну почему сильно? — ответил он. — Меня многое устраивает. Но я считаю, что наша демократия имеет ограниченный характер, и пришел об этом заявить.

Я представил себе, как об «ограниченном характере» белорусской демократии этот юноша пришел бы заявить в Минске, да еще во время торжественного выезда правителя. Да его за километр замели бы с таким плакатом. А потом, как водится, СИЗО, скорый и справедливый суд, огромный штраф...

Молодой поляк пришел к президентскому дворцу, чтобы заявить об «ограниченном характере демократии». И почему-то ему не заламывают руки, не лупят дубинкой, не тащат в участок...

Когда-то, очень давно, в послевоенные первые годы в начальной советской школе были в ходу плакаты на тему «Два мира — две судьбы». На одном — счастливые советские дети. На другом — пребывающие в нищете дети на ужасном капиталистическом Западе. Об этом невольно вспоминаешь, когда не без зависти смотришь, как поляки отмечают свой День Независимости.

Нет демонстраций и всеобщего ликования. Но есть гордость за свою страну, свою историю, свою культуру. Гордость, отягощенная нелегкими раздумьями о сложности исторического пути и даже обидами... Поляки спорят, ругают свою власть. И сами же видят, как польский корабль стронулся с места, что он плывет и в очень неплохом направлении. Учительница пожаловалась мне на маленькую пенсию. «Всего семьсот злотых, проше пана!» Но это двести долларов. При ценах таких же, как у нас. А на многие товары и гораздо меньших.

Вот о чем подумалось в день польской Независимости.

*Варшава*

## Металл для евро из Китая

**Главное информационное агентство Китая Синьхуа на днях сообщило, что КНР выиграл тендер на поставки металла для чеканки монет евро — новой европейской валюты, которая будет введена в странах Евросоюза в будущем году.**

Согласно сообщению, Лоянский медный завод, расположенный в центральной китайской провинции Хэнань, подписал контракт на ежемесячную поставку в течение трех лет тысячи тонн сплава меди, алюминия, цинка и ряда других металлов на монетный двор в германский город Бремен. Этот китайский завод вышел победителем в острой конкурентной борьбе за получение заказа с 11 крупными компаниями из США, Германии и Южной Кореи. Первые 200 тонн лигатуры уже отправлены в Германию.

## Наркотики погубили генерала

**Из-за кокаинового скандала командующий военно-воздушными силами Колумбии генерал Мануэль Сандовал подал в отставку.**

Скандал возник после того, как американские таможенники обнаружили более 600 килограммов кокаина на сумму около 13 миллионов долларов на борту колумбийского военно-транспортного самолета во Флориде. Генерал Сандовал взял на себя ответственность за случившееся, однако опроверг предположения о том, что колумбийские военные широко вовлечены в наркоторговлю.

## Оппозиция против Алиева

**Свыше 70 оппозиционных организаций и партий Азербайджана договорились 11 ноября сообща добиваться отставки президента Гейдара Алиева.**

Их руководители уверены, что итоги президентских выборов 11 октября были сфальсифицированы. Представители оппозиции заявили, что участились случаи нападения на них во время митингов и демонстраций.

## Сорос на Украине

**Известный американский финансист Джордж Сорос после встречи с главой украинского государства 10 ноября подчеркнул в интервью журналистам, что без успешной программы сотрудничества с МВФ Украина *«рискует последовать российскому примеру»*.**

Во время встречи с Л.Кучмой, по словам финансиста, обсуждалась экономическая ситуация в Украине, а также проблемы, возникающие в рамках сотрудничества с МВФ. По его мнению, украинское руководство *«оказалось в патовой ситуации»*, поскольку, с одной стороны, МВФ осуществляет давление на правительство с целью повышения платы за коммунальные услуги, а с другой — парламент требует немедленного погашения бюджетной задолженности населению по всем социальным выплатам, что может привести к дополнительной денежной эмиссии. Против последнего, по словам Дж.Сороса, *«категорически выступают Всемирный банк и Международный валютный фонд»*. Американский финансист считает экономическую ситуацию в Украине несколько лучшей, чем в России, однако в значительной степени преодолеть кризис можно лишь благодаря согласованным действиям всех ветвей власти в Украине.

*По сообщениям информационных агентств*




***Девочка с плакатом «Я хочу жить при социализме» во время митинга левых сил на Европейской площади в Киеве.***







**Тони Блэра во время его избирательной кампании нередко называли «британским Клинтоном». К Герхарду Шредеру несколько позже обращались «герр Блэр». Образы всех троих, тщательно отредактированные политическими имиджмейкерами, настолько перемешались в представлении как избирателей, так и политологов, что журнал *Newsweek* даже разработал специальный опросник для любителей блеснуть своей эрудицией. Желающие тоже могут попробовать определить, к кому из этой троицы (или же ко всем сразу) относятся приведенные ниже высказывания:**

*Его отец умер, когда он еще был совсем маленьким ребенком. (Г)*

*Его первое появление вблизи главной резиденции страны состоялось в стадии чрезмерного опьянения, при этом он ломился в ворота ограды и кричал: «Я хочу туда!» (Б)*

*Он курит сигары. (Б)*

*Его сокурсники по колледжу закрепили за ним кличку «машина любви» (В)*

*Его избирательная кампания сопровождалась лейтмотивом голливудского хита «Ничто теперь нас не остановит» (Б)*

*Он любит играть на электрогитаре для публики (В)*

*Его энергичная жена умеет лучше зарабатывать деньги, чем он сам (А, В)*

***(А - Клинтон; Б - Шредер; В - Блэр; Г - все трое)***

# Трое в поисках третьего пути

## *Обобщенный портрет Билла Клинтона, Тони Блэра и Герхарда Шредера*

Не угадавшие правильные ответы могут особенно не огорчаться, так как не все ли равно, на чем играет отдельно взятый политический лидер — на гитаре или же на саксофоне. И какая, собственно, разница, кто из них может похвастаться наличием четырех жен, а кто — четырех любовниц. Гораздо больше политологов интересует, что объединяет этих представителей «новой волны» в большой политике.

И американцы в 1992 году, и британцы в 1997-м, и теперь вот немцы в 1998-м голосовали не за политические лозунги и экономические программы, а за более молодых, более телегеничных героев культовых сериалов, способных к тому же блеснуть виртуозным владением богатым лексическим запасом современных экономических терминов. Есть еще одна особенность от предыдущих политических лидеров, новые герои не предлагают никаких радикальных изменений, они лишь обещают делать то же самое, что и их предшественники, но только лучше.

Духовным лидером политиков новой волны стал Билл Клинтон. Его имиджмейкеры смогли наиболее точно определить наиболее уязвимые места американского электората, сконцентрировав все свое внимание на «новой середине». Тем представителям американского населения, которое причисляло себя к разряду обеспеченных, он пообещал возможность разбогатеть еще больше, в то же время гарантировав социальную защищенность тех американцев, которые не то что не хотят богатеть, но, скорее, боятся возможности обнищания. Естественно, вся эта демагогия имела смысл только на фоне беспрецедентного материального благополучия, которым Америка наслаждается уже более десяти лет подряд. Именно эта предпосылка позволила Клинтону вместо необходимости решать сложные экономические задачи сконцентрировать свою демагогию на «персональной ответственности перед обществом и окружающей средой за преодоление преступности, нищеты, морального опустошения и экологического загрязнения».

Успех, который имела подобная коммерциализация избирательной кампании, подтолкнула Тони Блэра к использованию Билла Клинтона в качестве ролевой модели при разработке своей собственной стратегии политической борьбы. Сделанная по голливудским стандартам коммерческого телеискусства и законам маркетинга и завершившаяся убедительной победой избирательная кампания показала, что расчет Тони Блэра был абсолютно правильным. Правда, с учетом национальных особенностей своего электората ему пришлось пойти несколько дальше и разработать даже целую идеологию «третьего пути».

Теперь упрямые критики настойчиво пытаются получить от него ответ на вопрос, куда же ведет этот «третий путь». Ведь изначально о третьем пути заходила речь в том случае, когда нужно было делать выбор между капитализмом и коммунизмом. Однако по существу ни капиталистическое общество, ни коммунистическое в чистом виде за всю историю человечества так построены и не были, так что речь, скорее, идет о выборе между свободным рынком и обществом тоталитарного регулирования. Непредсказуемые прелести свободного рынка несколько охладили пыл своих самых преданных апологетов, и теперь уже мало кто осмелится утверждать, что именно стихия свободного рынка сможет послужить панацеей от всех экономических и политических проблем. Но и высокие налоговые ставки, громоздкая система социального обеспечения и защита интересов производителя особого восторга у западного обывателя не вызывают. Поэтому вместо ток-шоу Тони Блэру приходится регулярно проводить сеансы ток-шопа, а свои ораторские способности подкреплять редким даром телегеничного «заклинателя змей».

Именно этот оттенок «миссионерства», по словам Герхарда Шредера, и является той единственной отрицательной чертой в непорочном образе «британского Клинтона», которую ему не хотелось бы воспроизводить при создании своего собственного политического имиджа. Однако, по всей видимости, именно новому немецкому канцлеру фанатическая вера в истинность его утверждений понадобится гораздо больше, чем Клинтону и Блэру, вместе взятым. Ведь, в отличие от пресыщенной Америки и консервативно благополучной Англии, перенесшей хирургическую операцию объединения, Германии предстоит решить сложные экономические задачи. Восточной Германии все еще предстоит довести до конца несколько забуксовавшую программу приватизации. В то же время высокий уровень безработицы и чрезвычайно высокие ставки налогообложения придают вопросам социальной защищенности немцев особую остроту.

Правда, похоже, Герхарду Шредеру удалось найти удачный маркетинговый прием и для решения таких, казалось бы, неразрешимых проблем. Он пообещал своим избирателям, что станет первым «канцлером без комплексов». Похоже, для немцев, которые многие десятилетия прожили, отягощенные общенациональным чувством вины, избавление от этого непосильного груза значит даже больше, чем действительное решение их экономических проблем.

Тем не менее политические оппоненты искателей третьего пути, как оказалось, тоже успешно осваивают законы политического маркетинга. Можно сколько угодно спорить о том, стоило ли тиражировать плакаты с изображением неотразимой Моники по всему миру и о том, насколько этично копаться в грязном белье, разбросанном по кабинетам Белого дома, но последователям Билла Клинтона необходимо учесть, что именно «персональная ответственность перед обществом» оказалась в его программе практически единственным конкретным пунктом, за невыполнение которого и можно было зацепиться. С этой точки зрения программа Шредера представляется поистине безупречной, так как для того, чтобы доказать, что и у него тоже есть комплексы, понадобятся усилия целой армии квалифицированных психоаналитиков. Впрочем, западные обозреватели давно уже твердят о том, что законы политэкономии и социологии давно уже устарели. Наступает эра политической психиатрии.

*По материалам Newsweek и International Herald Tribune*
*подготовила*
**Оксана ПРИХОДЬКО**

